

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 33 (216)
Субота, 19 жніўня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# АГЛОНА САРДЭЧНА ПРЫВІТАЛА БЕЛАРУСКІХ ПІЛІГРЫМАЎ

***З 13 па 15 жніўня група беларускіх пілігрымаў на чале з пробашчам касцёла святых Сымона і Алены ўдзельнічала ў цудоўным паломніцтве на зямлю латвійскую – да Санктуарыя Маці Божай Аглонскай. Шчырыя і ўзнёслыя малітвы і спевы праслаўлення, падхопленыя ветрам, плылі над базілікай, а Маці чакала, Маці сустракала сваіх дзяцей, якія прыйшлі здалёк, каб скласці да Яе стоп свае просьбы і спадзяванні.***

14 жніўня 2006 года застанецца ў хроніцы парафіі св. Сымона і св. Алены памятнай датай. Менавіта ў гэты дзень у Аглонскім Санктуарыі ўпершыню адбылася ўрачыстая святая Імша на беларускай мове.

Пачуццё ўзнёсласці і чаканне надзвычайнага ахапіла пілігрымаў з першых крокаў на аглонскай зямлі. Неабдымная прастора, напоўненая свежым ветрам, пранізаная сонечнымі промнямі, увянчаная трыма белымі крыжамі на ўзвышшы... І спеў, голас душы кожнага, хто набліжаўся з вялікай пашанай да святыні, хто доўга чакаў гэтай сустрэчы з Маці, спадзеючыся выказаць Ёй усё, што набалела, расказаць пра ўсё, што атрымалася і не зусім, падзякаваць і навучыцца – ціхасці, пакоры і любові...

*Маці Бога – Марыя,*
*Маці майго нараджэння з грэху няволі,*
*Маці паўстання са сну смерці,*
*Цябе просім,*
*У Богу трываць навучы нас,*
*Вядзі да Сына.*

*Сэрцы прыносім,*
*Шчыра раскрыўшы ўсе душы*
*Мы Цябе просім:*
*Навучы сваёй пакоры,*
*Кожны з нас быць хоча добрым,*
*Прагне жыць, як Божы Сын.*



## З ДЗЁННІКА ПІЛІГРЫМА

Такія словы спеву-малітвы гучалі з вуснаў беларусаў, якія ўкленчылі перад цудадзейным абразам. Не хацелася пакідаць гэтага месца, заставалася толькі моцнае жаданне стаяць вось так на каленях, спяваць і слухаць сваё сэрца, спяваць і чуць голас Бога, думаць толькі пра добрае, узнёслае і святое. Бо іншых думак тут быць і не магло...

Цуды распачаліся амаль адразу. Усю групу без чаргі правялі да падножжа цудадзейнай іконы, і кожны мог так блізка падыйсці да Яе і, зазірнуўшы ў вочы, даверыць Найсвяцейшай Маці свае таямніцы...



І вось 15.00 – гадзіна Божай Міласэрнасці, час святой Імшы на беларускай мове для ўсіх беларусоў, якія цяпер жывуць у Латвіі.

І першыя словы ксяндза Уладыслава Завальнюка, якія падвойным рэхам разыходзіліся па ўсёй аглонскай прасторы, і спеў хароў «Голас душы», «Сымонкі», «Арханёл» і ўзнесеныя ў малітве рукі веруючых зліваліся ў адзін магутны гімн праслаўлення Божай ласкі і міласэрнасці.

Міжволі да нашай малітвы далучаліся тыя, якія зусім не ведалі беларускай мовы. Яны падтрымлівалі адзінства духа сваімі ўсмешкамі, праніклівымі позіркамі і ўважлівасцю, уласцівай латышскаму народу.

А потым, у часе канцэрта, які далі нашыя хары пасля святой Імшы на беларускай мове, мясцовыя парафіяне праяўлялі свае пачуцці апладысментамі і захапленнем спевамі юнакоў і дзяўчат з Беларусі.

*«Ты – як прамень*
*для нас між цернямі,*
*Ты – ясны дзень*
*для душаў верных.*
*Пакуль ідзем*
*зямной дарогай,*
*Не пакідай Ты нас,*
*о Маці Бога!»*

Напэўна, не трэба ведаць мовы, можна нават стаяць з заплюшчанымі вачыма. Дастаткова толькі слухаць, слухаць сэрцам і адчуваць той давер, з якім звяртаецца чалавек да свaёй любай Маці, просячы Яе дапамагчы, даць прыклад трывання ў святасці.

Словы падзякі ад імя слухачоў вельмі проста і далікатна выказаў Яго Эмінэнцыя Кардынал Латвіі Яніс Пуятс.

Пасля святой Імшы на 19.00 вырушыла незабыўная працэсія. У промнях вечаровага сонца сінія сукенкі дзяўчат хора нагадвалі спакойны роўныя хвалі, успененыя белізной арганзы. А навокал «ажывалі» агеньчыкі свечак, якія паволі ператвараліся ў ручаінкі, што разрасталіся спачатку да памераў рэчак, а потым сталі суцэльным морам святла Хрыста. Так распачыналася Крыжовая дарога ад велізарнага крыжа на беразе возера да Галгофы на могілках.

Тысячы людзей накіроўвалі свае малітвы, крокі і думкі за Крыжам Езуса, тысячы галасоў зліваліся ў адзіны мілагучны спеў. І кожны чалавек ператвараўся на нейкі час у маленькую кропельку, клетачку, якая складала Містычнае Цела Хрыста...

Дзень 15 жніўня – кульмінацыя ўрачыстасці – адзначыўся таксама цудоўным падарункам для беларускіх хароў. Адбыўся яшчэ адзін «маленькі» цуд – Кардынал запрасіў нашыя хары праславіць Эўхарыстычнага Езуса падчас цэнтральнай святой Імшы на 12.00 і скласці малітвы верных на беларускай мове.

Сабраныя вернікі пачулі заклік:

*«Цела Хрыстова*
*прыміце,*
*Хто пакаяўся*
*ў грахах,*
*Несмяротнасці*
*крыніцу*
*Атрымаецце*
*ў вяках...»*

Апошнія хвіліны прабывання ў Аглоне былі напоўненымі радаснымі спевамі, жаданнем яшчэ хоць на імгненне затрымаць свабоду, лёгкасць, узнёсласць духа. Адначасова хацелася дзяліцца ўражаннямі, перажываннямі і дабрынёю.

Няхай словы малітвы верных, узнесенай падчас святой Імшы здзейсняцця ў бліжэйшай будучыні:

**Найсвяцейшая Панна Марыя, у цудоўным Аглонскім абразе, прымі ўдзячныя малітвы беларускіх пілігрымаў і апякуйся тым, каб духоўная сувязь паміж народамі Беларусі і Латвіі ўзмацнялася з кожным годам.**

*Наталля Сундукова*

## ПАМЁР ГАБРЫЭЛЬ МАНТАЛЬВО

***Памёр Габрыэль Манталько, Апостальскі Нунцый у Беларусі***



3 жніўня 2006 г., у Ватыкане, ва ўзросце 76 гадоў, памёр Габрыэль Манталько, Апостальскі Нунцый у Беларусі.

Калумбіец па нацыянальнасці, арцыбіскуп Манталько доўгія гады працаваў у Дзяржаўным сакратарыяце Апостальскай Сталіцы, дзе займаўся справамі Касцёла ва Усходняй Еўропе, у тым ліку і ў Беларусі.

У 1974 г. ён атрымаў біскупскае пасвячэнне з рук Папы Паўла VI.

У перыяд з 1974 па 1980 гады быў Апостальскім Нунцыем у Нікарагуа і Гандурасе.

У 1986 г. ён быў Пра-Нунцыем у Паўночнай Афрыцы: Алжыры, Тунісе і Лівіі, а ў 1986-1996 гг. – у Югаславіі.

У 1993 г. арцыбіскуп Г. Манталько быў прызначаны Папам Янам Паўлам II Апостальскім Нунцыем у Беларусі і выконваў свае абавязкі да 1996 г.

У перыяд з 1993 па 1998 гг. ён адначасова кіраваў Папскай дыпламатычнай акадэміяй у Рыме.

У 1998 г. быў прызначаны Апостальскім Нунцыем у Злучаныя Штаты Амерыкі і спаўняў сваю місію да 2005 г.

У суботу, 5 жніўня, жалобную святую Імшу ў ватыканскай базыліцы святога Пятра ўзначаліў Дзяржаўны сакратар Апостальскай Сталіцы кардынал Анджэло Садано. Каля труны святой памяці арцыбіскупа Габрыэль Манталько маліліся былы Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі і Апостальскі Адміністратар для грэкакатолікаў на Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек.

*Catholic.by*

## 75.000 УЧАСТНИКОВ

Бангкок, Таиланд, 11 августа.. Религия способна оказать помощь в развитии страны и общества. К такому выводу пришли представители христианской, мусульманской и буддистской общин в ходе своей встречи, посвященной вопросам религии в современном обществе.

Темой встречи было «Как религиозные учения могут улучшить жизнь людей в сельских областях». В мероприятии приняли участие свыше 75 000 людей, в том числе сельские жители, руководители деревенских хозяйств, а также правительственные чиновники.

Фратамкиттивон, ректор буддистского храма Радча-Орасарам, отметил, что «каждая религия хороша, но учения теряют свой смысл, если их принципы не применяются в жизни. Если заповеди религиозного учения соблюдаются людьми, то они улучшают жизнь людей, и помогают противостоять искушениям. Претворение этих принципов в жизнь является задачей родителей, монахов и учителей».

Висарут Лаувити, представитель мусульманской общины, подчеркнул тот факт, что ислам учит всех своих последователей любви к своей родине. «В стремительно развивающемся обществе, для мусульман самым главным является жить в соответствии со своими религиозными предписаниями, которые затрагивают душу человека». Он подчеркнул, что в современном мире духовные ценности разрушаются материализмом.

Католическую делегацию возглавлял о. Джозеф Файзал Анамват, генеральный секретарь католической комиссии по межрелигиозному и культурному диалогу. «Основой христианства является любовь. Именно поэтому христиане ведут активную благотворительную деятельность, курируют школы и создают приюты для молодежи и малоимущих», – заявил священник.

Обращаясь к представителям сельских властей, он призвал их «следовать этому примеру и помогать развитию местного населения».

*Agnuz*

## МАРШ ПРОТИВ АБОРТОВ

В Австрии под девизом «Как далеко ты можешь зайти, чтобы защитить человеческую жизнь?» прошел марш молодежи. Он был организован местным католическим движением «Молодежь за жизнь».

Около 100 молодых людей находились в пути 21 день, за который они прошли 19 австрийских городов, преодолев примерно 400 километров.

Во время остановок они принимали участие в богослужениях, проводили круглые столы, устраивали небольшие выставки.



Завершением длинного путешествия из Зальцбурга в Вену стал концерт христианской рок-группы «Fresh», который состоялся на столичной площади Карлсплатц 4 августа.

Организаторы акции остались довольны её результатами. «Благодаря широкому освещению события в местной прессе мы смогли донести наше послание до очень многих людей», – заявил председатель «Молодежи за жизнь» Мартин Минкович.

*Agnuz*

# СВЯТЫ І ЗЛАЧЫНЕЦ

***Адзін з іх стаў сімвалам бязмежнай любові да бліжняга, другі – нянавісці чалавека да чалавека. Абодва прагнулі заваяваць увесь мір для сваіх ідэалаў... Сорак сем гадоў жыцця гэтых людзей паказалі, як яны змаглі стаць працілеглымі сімваламі дваццатага стагоддзя.***

*Працяг, пачатак у № 32.*

У гэты ж час ***а. Максіміліян*** збіраў сродкі на выданне «Рыцара Беззаганай». На жаль, ізноў далі знаць аб сабе сухоты. Неўзабаве а. Максіміліян пачаткаў будаўніцтва Непакалянава (горада Беззаганнай). Ён заклікаў на дапамогу простых парафіянаў. Адзін з іх успамінае: «Родная маці не любіла нас так, як ён. Мы адчувалі, што ён аддаў бы жыццё за кожнага з нас. Погляду гэтых добрых блакітных вачэй было досыць, каб зрабілася больш упэўнена на душы і велізарным даверам напоўнілася растрывожанае сэрца».

Непакалянаў хутка рос. Айцец Максіміліян знаходзіў новыя сродкі і новыя друкарныя машыны.

У гэты час ***Рудольф Гесс*** едзе на працу ў Памеранію, дзе знаёміцца са сваёй будучай жонкай Хэдвігай Гезэль. Яны пажаніліся ў 1929 годзе. У наступныя тры гады ў іх нарадзіліся сын і дзве дачкі.

Калі Гітлер прыйшоў да ўлады, Гесс пачаў службу ў СС, у ахоўным аддзяленні канцлагера Дахау. Там яго навучылі, што чуллівым няма месца ў СС.

З пачаткам Другой сусветнай вайны распачаліся першыя кары людзей, якія ўхіляліся ад службы ў войску або абвінавачваных у сабатажы. Гэтымі карамі займаўся асабіста Гесс. Аднойчы раніцай аднаго асуджанага вывялі на месца экзэкуцыі. Рудольф прыставіў да скроні ахвяры пісталет і стрэліў.

4 траўня 1940 года Рудольф Гесс быў прызначаны каштальянам канцлагера ў Асвенцыме. Над уваходам у лагер красаваўся любімы афарызм Гесса: «Arbeit macht frei» – «Праца робіць вольным». Рудольф усё больш замыкаўся ў сабе, станавіўся недасягальным для сваіх афіцэраў і з кожным днём усё больш жорсткім.

Падыходзіў да канца 1940 год, у Непакалянаве з'явіліся гітлераўцы. ***Айцец Максіміліян*** разам з чатырма братамі быў арыштаваны і вывезены на Павяк. Там над ім жорстка здзекаваліся, збівалі. Але ён заўсёды гаварыў: «Гэта ўсё дзеля Беззаганнай». 28 мая айцец Кольбе разам з варшаўскімі вязнямі пераступіў вароты канцлагера ў Асвенцыме. Пачалася са-праўдная катарга. Аднойчы адзін з фашыстаў па мянушцы «крывавы Кротт» выраšыў «даканаць» айца Максіміліяна. Уласнаручна ён узвальваў



яму на плечы цяжкія галіны, а затым загадваў збегчы да месца прызначэння. Калі айцец упаў пад цяжарам галін, Кротт падбег да яго і пачаў біць у жывот, твар... Айцец Максіміліян з цяжкасцю прыпадняўся і спакойна паглядзеў у твар злыдня. Той не змог гэтага вынесці. Загадаў нанесці яму яшчэ 50 удараў. Айцец Максіміліян страціў прытомнасць. Кротт сапхнуў яго ў роў, поўны бруду і закідаў галінамі. «Ну ўсё, папу канец!»

Святар быў яшчэ жывы. Сакамернікі прынеслі яго ўвечары ў лагерную «лякарню». Там зняверчаны а. Максіміліян напісаў свой адзіны ліст маці з лагера: «У мяне ўсё добра. Дарагая мама не турбуйся пра мяне і маё здароўе. Бо любімы Госпад на ўсякім месцы з вялікай любоўю думае аб усіх і аб усім». Тыя, якія паміралі і моцна пакутавалі, паўзлі да яго нараў, просячы словаў суцяшэння або аб споведзі. Ён змагаўся з нянавісцю ў чалавечых сэрцах. Гаварыў: «Нянавісць – не стваральная сіла. Стварае любоў. Гэтыя пакуты не адолеюць нас, а толькі пераплавяць, загартуюць. З нашага боку патрэбныя вялікія ахвяры. Каб заплаціць за шчасце і мірнае жыццё тых, што прыйдуць пасля нас».

Айцец Кольбе вярнуўся ў блок 14А і даведаўся, што днём раней з яго збег вязень. Той ноччу ніхто не заснуў. Назаўтра вязняў з блока 14А прымусілі ўвесь дзень стаяць на пляцы. Ліпеньскае сонца паліла неміласэрна. На заходзе прабразгаў голас Фрыцша: «У пакаранне дзесяць чалавек пойдуць у галодны бункер». У групе асуджаных прагучаў голас Гаеўнічэка: «Бедная мая жонка, бедныя мае дзеці! Ніколі я больш вас не ўбачу!». Раптам да Фрыцша падышоў адзін з вязняў і сказаў спакойным стрыманым тонам: «Я хачу пайсці на смерць замест аднаго з асуджаных». Фрыцш не разумеў, у чым справа.

– За каго ты жадаеш памерці?

– Вось за гэтага. У яго жонка і дзеці... – паказаў а. Кольбе на Гаеўнічэка, сяржанта 36-га пяхотнага палка.

– Хто ты? – здзіўленне не пакідала Фрыцша.

– Каталіцкі святар.

– Добра. Ідзі! – вырашыў Фрыцш.

Ім загадалі распрануцца. Поўнасцю.

***Ці можа чалавек забраць у другога ўсё? Так, усё, акрамя... любові! Любоў нельга адабраць. Любоў сваю або захоўваюць, або губляюць.*** Айцец Максіміліян Марыя Кольбе стаў святым таму, што сам не страціў гэтай любові і не дазволіў іншым страціць, нават знаходзячыся ў галодным бункеры.

*Працяг будзе*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 20 ЖНІЎНЯ
## 20-Я ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
## ЧЫТАННЕ КНІГІ ПРЫПАВЕСЦЯЎ САЛАМОНА

*(Прып 9, 1-6)*

Мудрасць збудавала дом свой і вычасала сем калонаў яго, забіла тое, што было на зарэз, змяшала віно сваё і стол падрыхтавала. Выслала служанак сваіх і кліча з вяршынь узвышшаў горада: «Хто просты, няхай прыйдзе сюды».

Неразумнаму яна сказала: «Хадзіце, ешце хлеб мой, піце віно, якое змяшала. Адкіньце глупства і будзеце жыць, хадзіце шляхам розуму».

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 34 (33), 2-3. 10-11. 12-13. 14-15 Р.: 9а)*

***Рэфрэн: Пакаштуйце і ўбачце, які Госпад добры***

Хачу я благаслаўляць Госпада ў кожную часіну, *
заўжды на маіх вуснах Яго хвала.
Душа мая будзе ўсхваляць Госпада, *
няхай чуюць пакорныя і няхай весяляцца!

***Рэфрэн.***

Бойцеся Госпада, святыя Ягоныя, *
бо богабаязныя бяды не спазнаюць.
Збяднелі вяльможныя, голад спазналі; *
а тым, хто Госпада шукае, ніколі дабра не забракне.

***Рэфрэн.***

Прыйдзіце, сыны, пачуйце мяне, *
я навучу вас богабаязі.
Які павінен быць чалавек, што ўлюбёны ў жыццё, *
і прагне тых дзён, каб шчасце спазнаць?

***Рэфрэн.***

Устрымай свой язык ад ліхога, *
і вусны свае ад словаў падступных!
Адступіся ад ліха, дабрыню праяўляй; *
спакою шукай, кроч за ім!

***Рэфрэн.***

## ЧЫТАННЕ ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА ЭФЕСЦАЎ

*(Эф 5, 15-20)*

Дык глядзіце ўважліва, браты, як паводзіце сябе: не як нямудрыя, а як мудрыя. Выкарыстоўвайце зручную хвіліну, бо дні благія. Таму не будзьце неразважныя, а старайцеся зразумець, што такое воля Госпада. І не ўпівайцеся віном, бо гэта з'яўляецца прычынай распусты, а напаўняйцеся Духам, прамаўляючы адзін аднаму ў псальмах і гімнах, і песнях, поўных духа, співаючы і ўслаўляючы Госпада ў вашых сэрцах. Дзякуйце заўсёды за ўсё Богу Айцу ў Імя Госпада нашага Езуса Хрыста!

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

«Хто ёсць Мае Цела і п'е Маю Кроў,
ува Мне ёсць, а Я – у ім», – кажа Госпад.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ ЯНА

*(Ян 6, 51-58)*

У той час:

Езус сказаў народу: «Я – гэта Хлеб Жывы, што сышоў з неба. Калі хто спажывае гэты Хлеб, будзе жыць вечна. Хлеб, які Я дам, гэта Цела Маё за жыццё свету».

Юдэі спрачаліся між сабою і казалі: «Як Ён можа даць нам Сваё цела для спажывання?»

Езус сказаў ім: «Праўду, праўду кажу вам: «Калі не будзеце спажываць Цела Сына Чалавечага і не будзеце піць Ягонай Крыві, дык не будзеце мець жыцця ў сабе. Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, той мае жыццё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў дзень апошні».

Цела Маё – гэта сапраўдная спажыва, а Кроў Мая – гэта сапраўдны напой. Хто спажывае Маё Цела і п'е Маю Кроў, ува Мне трывае, а Я ў ім.

Як Мяне паслаў жывы Айцец, і Я жыву для Айца, так і той, хто спажывае Мяне, будзе жыць для Мяне. Гэта ёсць Хлеб, які з неба сышоў, ён не такі, што спажывалі вашыя бацькі і паўміралі. Хто спажывае гэты Хлеб, жыць будзе вечна».

Гэта сказаў Ён у сінагозе, калі навучаў у Кафарнауме.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

# БІСКУП АНТОНІЙ ДЗЯМ'ЯНКА СЯРОД СКАЎТАЎ

***10 жніўня 2006 г. Апостальскі Адміністратар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Антоній Дзям'янка сустрэўся з моладдзю, якая належыць да скаўцкай арганізацыі і праводзіць свой летні адпачынак у скаўцкім летніку на прыродзе.***

З кожным годам усё больш маладых людзей далучаюцца да скаўцкага руху, які грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях і спрыяе гарманічнаму развіццю дзяцей і моладзі. Скаўты жывуць па такіх *законах:*

1. Скаўт дбае пра свой гонар, каб заслужыць давер.
2. Скаўт паслухмяны і добрасумленны ў адносінах да сваёй краіны, бацькоў, кіраўнікоў, падначаленых.
3. Скаўт пакліканы да служэння бліжняму і яго збаўленню.
4. Скаўт з'яўляецца сябрам усіх і братам для кожнага іншага скаўта.
5. Скаўт ветлівы і высакародны.
6. Скаўт бачыць у прыродзе Божае стварэнне, шануе расліны і жывёлаў.
7. Скаўт дысцыплінаваны, кожнае заданне выконвае добрасумленна да канца.
8. Скаўт пануе над сабой, усміхаецца і спявае ў цяжкасцях.
9. Скаўт гаспадарлівы і клапоціцца пра дабро іншых.
10. Скаўт чысты ў думках, словах і ўчынках.



### Зварот Біскупа Антонія Дзям'янкі да скаўтаў

***1. Бог чакае ад моладзі перамены.***

Пра тое, чаго Бог чакае ад моладзі, вельмі трапна гаворыцца ва ўрыўку са Святога Евангелля, у якім размова ідзе пра маладога хлопца і размнажэнне хлеба і рыбы (пар. Ян 6, 1-13). Евангеліст Ян апавядае, што вялікі натоўп хадзіў за Езусам. Гледзячы на ўсіх гэтых людзей, Езус запытаўся ў апостала Філіпа: «Дзе нам купіць хлеба, каб накарміць іх?» Гэта было правакацыйнае пытанне, паколькі ў дадзенай сітуацыі знайсці хлеб для такой вялікай колькасці галодных людзей было вялікай цяжкасцю. Вучні слушна заўважылі, што «хлеба на дзвесце дынараў не хопіць, каб кожнаму дасталася хоць крыху». На самай справе Езус хацеў выпрабаваць іх веру: Ён разлічваў не на тое, што ўдасца здабыць даволі шмат матэрыяльных даброт, але на тое, што вучні захочуць велікадушна ахвяраваць свае сціплыя запасы. Ахвярнасць – гэта ўнутраны стан, які нарадзіўся ў сэрцы хлопца, што ахвяраваў пяць ячменных хлябоў і дзве рыбы. Вучні лічылі, што гэта вельмі мала «для такога мноства». Але Езус ацаніў добры намер вашага равесніка. Ён узяў хлябы і, падзякаваўшы, раздаў прысутным, пасля чаго ўчыніў падобнае з рыбамі. Тое, на што не асмельваўся разлічваць чалавечы розум, дзякуючы Езусу і ахвярнаму сэрцу хлопца стала рэчаіснасцю.

Тое, што ўчыніў гэты малады чалавек, з'яўляецца заданнем для кожнага з вас. Вы павінны стаць, як гэты хлопец з Евангелля, ахвярнымі супрацоўнікамі перамены, якая сфармуе вашую будучыню. Перамена маладога чалавека можа быць таксама названа сталасцю або фармаваннем уласнай асобы. Для таго, каб гэта адбылося, вы павінны добра ўсведамляць, што маеце, кім з'яўляецеся, якімі талентамі надзяліць вашыя душы Бог Айцец. Кажучы моваю Евангелля, вы павінны даць свой рахунак з гэтых пяці хлябоў і дзвюх рыбаў. Вы павінны нанава адкрыць сваю каштоўнасць як асобаў, у якіх Дух Божы прабывае быццам бы ў святыні.

Шляхам, на якім адбываецца пазнанне сябе, неабходнае для таго, каб стаць сталым чалавекам, цалкам сфармаванай асобай, з'яўляецца вера і аскеза.

***2. Уплыў аскезы на фармаванне сталай асобы***

У Катэхізісе Каталіцкага Касцёла напісана: «Няма святасці без самаахвяравання і без духоўнай барацьбы. Духоўны прагрэс патрабуе аскезы і ўтаймавання цела, якія паступова вядуць да жыцця ў супакоі і радасці дабрадзейства» (ККК 2015).

Першым крокам аскезы і ўтаймавання цела з'яўляецца пазнанне самога сябе. Яно патрабуе высілку і самаахвяравання. У Евангеллі чытаем словы: «Калі кажам, што не маем граху, ашукваем саміх сябе, і няма ў нас праўды» (1 Ян 8-9).

Такім чынам, кожны чалавек мае ў сабе неўпарадкаванасць, якая знішчае належны падыход да справы, да іншых асобаў і да Бога. Вызваленне ад гэтых вынікаў першароднага граху з'яўляецца паказчыкам сталасці асобы і веры. Святы Аўгустын нагадвае вельмі важны прынцып, стымулючы нас да працы над сабою: «Бог стварыў цябе без цябе, але не збаўляе цябе без цябе».

*Catholic.by*

*Працяг будзе*

# ЛЕЧЕНИЕ ГРИБАМИ

***Времена года быстро сменяют друг друга, и вот за окном уже вторая половина лета. В связи с этим хотелось бы поговорить о таких привычных и таких загадочных грибах.***

*Окончание, начало в № 32*

В очень нежных и вкусных некоторых представителях видов рода ***навозник***, съедобных в молодом возрасте, обнаружено токсическое вещество, которое растворяется лишь в спирте. Поэтому при употреблении гриба с алкоголем возникают отравления. На этом свойстве навозников основано использование их для лечения алкоголизма.

В «Лечебниках» конца XVII века есть сведения о том, что свежим соком ***сморчков*** лечили некоторые заболевания глаз.

Ещё в XVI-XVII вв., согласно старинным документам, сохранившимся до нашего времени, березовый гриб – ***чагу*** – использовали как лечебное средство при злокачественных опухолях (им лечили от рака губы Владимира Мономаха).

Население северных районов европейской части России и Сибири использовало чагу для лечения желудочно-кишечных заболеваний. В современной медицинской практике этот гриб используют в виде концентрированного экстракта, продающегося в аптеках под названием «БИН-чага». Препарат оказывает стимулирующее и тонизирующее действие на организм, обладает антибиотическим свойством, излечивает гастриты, способствует рассасыванию злокачественных опухолей на ранних стадиях развития.

Довольно широко используют в народной медицине ***чайный гриб***, известный под названиями «маньчжурского», «японского» и «морского». Тело этого гриба представляет собой не только мицелий самого гриба, но и скопление, зооглею уксуснокислой бактерии. Грибной компонент чайного гриба относится к группе дрожжевых грибов. Изучение терапевтических свойств культуральной жидкости чайного гриба показало, что грибной компонент образует антибиотик бактерицидин, активный против дизентерии и при заживлении раневых инфекций. Напиток из чайного гриба хорошо утоляет жажду, вызывает повышение аппетита, улучшает самочувствие больных, очень полезен при атеросклерозе, при некоторых заболеваниях печени, желчного



пузыря, почек. Но употребление чайного гриба, как и всех лекарственных средств, требует осторожности и контроля со стороны врача. Его нельзя применять при гиперацидном гастрите, остеохондрозе и подагре.

Общеизвестно, что дрожжи, используемые для целого ряда отраслей пищевой промышленности (получение пива, вина и др.), сами по себе являются питательными, так как содержат белки, углеводы, жиры, витамины. Не случайно пивные дрожжи являются лечебным средством. Наибольшее значение для человека имеют пекарские дрожжи. Дрожжевая биомасса хорошо усваивается организмом человека, поэтому ***дрожжи*** специально выращиваются для лекарственных целей. Их применяют в жидком виде и в таблетках.

С открытием пенициллина, стрептомицина и других антибиотиков, выделенных из плесневых грибов и актиномицетов, наступил период активных исследований макромицетов, главным образом базидиальных, с целью выявления новых продуцентов антибиотических веществ.

Шведские микологи Викен и Эблон исследовали 57 видов шляпочных грибов против стафилококков. Из них 24 вида гриба оказались способными задерживать рост микробов. Наиболее активными при этом оказались ***лисичка настоящая*** и ***груздь синеющий*** («груздь собачий»). Лисички богаты эргостерином. Антибактериальными против стафилококков оказались также рядовки, опята, огневки (фолиота), козляк («коровий гриб»), мокруха, ежовик желтый (глухая лисичка) и другие.

Антибактериальными свойствами обладают ***говорушки*** – содержат клитоцибин, диатретин и др., применяемые при лечении туберкулеза; во Франции клитоцибин используют и для лечения эпилепсии.

**Так что собирайте грибы не только «по вкусу», но и «по необходимости».**

**Будьте здоровы!**

*Людмила Соломахина*

# ПЕРШАЯ ПІЛІГРЫМКА Ў БЕРДЗІЧАЎ

***На пляцы перад Санктуарыем Маці Божай Бердзічаўскай сабралося шмат люду. Былі тут пілігрымы з Малдовы і Польшчы, з Украіны і Беларусі. Санктуарый Маці Божай Бердзічаўскай – галоўнае месца шанавання Багародзіцы сярод украінскіх каталікоў.***

Тут, у кляштары Босых Кармелітаў, заснаваным у 1628 г., знаходзіцца абраз Найсвяцейшай Багародзіцы – копія абраза Маці Божай Снежнай, званай «Salus Populi Romani» з рымскай базілікі Найсвяцейшай Панны Марыі Вялікай. Ужо ў 1647 г. біскуп Кіеўскі Станіслаў Зарэмбі з Калінава абвясціў Бердзічаўскі абраз цудадзейным. Паломнікі (у іх ліку былі і праваслаўныя), просячы заступніцтва Божай Маці, атрымлівалі аздараўленне ад цяжкіх хвароб, слепаты, у XVII стагоддзі былі зарэгістраваныя выпадкі ўваскрашэння з мёртвых.

У 1941 *г.* абраз знік; у цяперашні час у *санктуарыі* знаходзіцца новая копія, асвячоная ў 1997 *г.* Трэба дадаць – у час візіту Папы Рымскага Яна Паўла ІІ на Украіну алтар на стадыёне «Чайка» ў Кіеве, дзе адбывалася Імша, быў упрыгожаны Абразом Маці Божай Бердзічаўскай.

Традыцыю паломніцтва да Бердзічаўскага абразу Маці Божай адрадзілі ў 1991 году айцы з ордэну капуцынаў.

А паколькі у гэтым годзе з Беларусі ўпершыню арганізавана пілігрымка да Бердзічава, са словам прывітання запрасілі арганізатара гэтага паломніцтва ксяндза-магістра Уладыслава Завальнюка. Ва ўступным слове, запрашаючы пробашча касцёла св. Сымона і Алены ў Мінску да алтара, айцец-францішканец з Жытоміру, які ішоў пешшу ў пілігрымцы са сваімі вернікамі, так абвясціў і прадставіў пілігрымаў з Мінска: «Мінск даў свае сведчанне сэрцам, далучыўшыся да нас у пілігрымцы малітвай і песняй. Мы вельмі вас любім, заўжды памятаем і сардэчна запрашаем на свята».

Першыя словы прывітання ксяндза Уладыслава да сабраных на пляцы былі на ўкраінскай мове. Ён выказаў надзею, што мы зразумеем мовы суседніх краін, і далей гаварыў ужо па-беларуску: «Мы ў думках і малітвах ехалі і шлі з вамі, але тут ужо недалёка




Бердзічава далучыліся да пілігрымкі з Жытоміра, бо хацелі змерыць гэтыя крокі па ўкраінскай зямлі разам, у малітоўнай еднасці, каб ласка Божая напаўняла нас тут, у гэтым святым месцы. Таксама ад нашых сэрцаў, ад нашых парафіянаў прыміце шчырае прывітанне, і няхай Маці Божая мае ўсіх вас у Сваёй Матчынай апецы. Шчыра дзякуем вам за такі духоўны радасны прыём».

І, сапраўды, усё, што гаварылася на працягу гэтых двух дзён урачыстасцяў, было зразумела, на якой бы мове ні прамаўлялася. А ў Бердзічаве размаўлялі і па-руску, і па-польску, і па-украінску, і па-беларуску, і па-малдаўску і на іншых мовах. Імша 15 ліпеня ўвечары, і галоўная – 16 ліпеня а 12-й гадзіне – служыліся на ўкраінскай мове.

Імшу 16 ліпеня цэлебраваў былы нунцый Сталіцы Апостальскай на Беларусі, а зараз нунцый Сталіцы Апостальскай на Украіне Ян Юркавіч, якому ў часе святочнай Імшы ад беларускай дэлегацыі былі паднесеныя памятныя падарункі: вылучаны на Нобелеўскую прэмію зборнік духоўных вершаў беларускага паэта Рыгора Барадуліна і кніга, якая дастойна быць настольнай кнігай веруючага чалавека «Каляндар хрысціяніна» ксяндза Уладыслава Завальнюка.

Тут жа, ў Бердзічаве, ў касцёле св. Варвары 16 ліпеня 2006 года адбывалося пасвячэнне грота Маці Божай Бердзічаўскай, які быў збудаваны ў гонар Каранацыі Цудадзейнай Іконы Багародзіцы ў 1756 годзе, а адноўлены ў 250-ю гадавіну. Пасвячэнне і святочнае набажэнства адбывалася з удзелам біскупа, парафіян, шматлікіх гасцей. Урачыста, пад гукі духавога аркестра, пасля пасвячэння грота, працэсія накіравалася да Санктуарыя Маці Божай Бердзічаўскай для ўдзела ў галоўнай Імшы.

*Ала Неверовіч*

*Працяг будзе*

# КАРДИНАЛЫ РАССКАЗЫВАЮТ О ПАПЕ

***Уникальное интервью с князьями Церкви: в свидетелях 21 кардинал***

## «МЫ ЗНАКОМЫ С 1980-ГО...»

***Кардинал Хавьер Лосано Барраган, президент Папского совета по пастырству среди работников здравоохранения.***

Я познакомился с тогдашним кардиналом Йозефом Ратцингером двадцать пять лет назад. Так, когда я пошел высказать послушание после конклава, Папа Бенедикт XVI, прежде чем я мог что-то произнести, сказал мне: «Мы знакомы с 1980-го...». Действительно, он был в то время руководителем Синода, посвященного вопросам семьи, а я был секретарем. Именно для того, чтобы начать эту нашу работу, он пригласил меня в Монако, где он был кардиналом-архиепископом. Я помню многое об этой первой встрече, его крайнюю доброжелательность, а также его проницательность. В то время в Европе много спорили о теологии освобождения. Хорошо помню, что он меня спросил: «Что это за теология освобождения?» Это был один из его первых вопросов. В том 1980 году мы много работали вместе, а три или четыре месяца – непрерывно. Затем, во время Синода, мы встречались каждый день. Хорошо помню, как он мне говорил: «Вы делайте эту часть работы, а я – эту». То есть он полностью доверял мне и не хотел, чтобы я делал просто какие-то наброски, которые он затем должен был просматривать. Так мы сэкономили время: тогда у нас не было компьютеров, не было ничего, мы все писали вручную. Он в то время еще не говорил хорошо по-итальянски, поэтому мы общались на немецком. Надеюсь, с моей стороны не будет хвастовством сказать, что благодаря этой работе бок о бок в 1980 году мы стали друзьями. Эта работа с ним стала для меня величайшей привилегией.

Затем я вернулся в Мексику, а кардинал Ратцингер был приглашен в Рим – возглавить Конгрегацию вероучения. В тот период



я углубленно занимался теологией освобождения и написал несколько книг на эту тему. Всякий раз, как мне случалось бывать в Риме, я шел навестить его и приносил ему свои книги. Он был всегда приветливым и любезным, и наши с ним разговоры были огромным интеллектуальным и духовным стимулом. Впоследствии Иоанн Павел II оказал мне честь, пригласив меня в Ватикан возглавить Папский совет по пастырству среди работников здравоохранения, а также назначил меня членом Конгрегации по делам епископов. Так я, к своему удовольствию, мог встречаться с кардиналом Ратцингером чаще. Иногда мы с ним обсуждали проблемы, входящие в мою компетенцию, например, вопросы биоэтики. Мы вместе обсуждали вопрос: допустимо ли диакону быть служителем таинства отходящих, обычай, широко распространенный в таких европейских странах, как Германия и Франция, или в латиноамериканских, к примеру, в Бразилии. Затем недавно мы встречались, чтобы обсудить уместность сотрудничества с Global Found для борьбы со СПИДом, малярией и туберкулезом, а также при открытии фонда «Добрый Самарянин», созданного Иоанном Павлом II в нашем ведомстве, именно для оказания помощи самым нуждающимся больным со всего мира, особенно пораженным вирусом ВИЧ. Хочу завершить свое краткое свидетельство симпатичной историей, случившейся на следующий день после избрания Бенедикта XVI. Вместе с двумя кардиналами мы выходили из трапезной дома «Святой Марты», после завтрака, и столкнулись с Папой, одетым во все белое, который шел куда-то. Я воскликнул: «Вот так встреча, Святейший Отец!», – и спросил его, как ему спалось после стольких волнений. Он ответил: «Неплохо… Думаю, будут ночи и похуже…». Второй кардинал, который был со мной, сказал ему: «Нам еще нужно привыкнуть видеть Вас в белом …», а третий кардинал добавил: «Но и Вы должны привыкнуть видеть себя в белом …». И Папа ответил: «Слава Богу, я себя не вижу!»

## «ОН ШЕЛ ПО УЛИЦЕ, ПЕРЕБИРАЯ ЧЕТКИ РОЗАРИЯ»

***Кардинал Жорж Коттьер, протеолог Папского Дома.***

То, что меня всегда поражало в кардинале Ратцингере, была его простота. Я много раз видел его шагающим по улице Порта Анджелика, перебирающим четки Розария. Это первый образ, возникающий в памяти, столь далекий от образа Panzerkardinal, растиражированного прессой и абсолютно не соответствующего действительности. Конечно, когда ему предстоит принять решение, он делает это, не колеблясь. Но это ценное качество.

Много лет я был секретарем международной богословской комиссии, и каждый год в течение недели проводились пленарные заседания, во время которых шла интенсивная работа над различными темами, рекомендованными Конгрегацией вероучения, или выбранными самой комиссией. Дискуссии на этих заседаниях отличались большой свободой. Кардинал Ратцингер был всегда с нами и внимательно следил за

# ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА

всеми фазами работы; было видно, что ему доставляло удовольствие находиться в обществе других теологов. Мы ощутили и оценили его человеческие качества, такие, как приветливость, сердечность, способность слушать, его высочайшие интеллектуальные качества, способность синтезировать. Папа – мудрый человек, который знает, что богословие составляет часть христианской мудрости и что нельзя заниматься богословием, не живя верой. Когда во время своей первой общей аудиенции он напомнил правило: «не ставить ничего превыше Христа», на которое св. Бенедикт указывал монахам, было понятно, что тот же самый критерий он применяет и к себе, к своей работе теолога. Я очень обрадовался, когда он представился миру, как смиренный работник виноградника Господня; и когда в своей проповеди на Мессе начала Понтификата он сказал, что его программа заключается не в том, чтобы утверждать собственные идеи, но в послушании Иисусу и Его Евангелию. Папа Бенедикт XVI – vir ecclesiasticus, человек Церкви. Он всегда помнил, что католический теолог занимается богословием не от себя лично, но как сын Церкви. Именно так он осуществлял свою деятельность теолога. С полным смирением, не впадая в искушение гордыни, которая часто делает профессию теолога опасной, рискованной. Думаю также, что Господь подготовил кардинала Ратцингера к его нынешней должности, потому что Папа Бенедикт XVI был не только великим теологом, которым он остается и сегодня; многие годы он был также префектом Конгрегации вероучения, что обеспечило ему опыт церковной жизни большого масштаба, в постоянном контакте со многими епископами. Это Папа, видящий проблемы в их целостности, сразу со всех сторон. Современные проблемы отличаются своей глобальностью, они затрагивают все человечество, и своей наблюдательностью, размышлением, молитвой кардинал Ратцингер был подготовлен, чтобы решить все это.

*Agnuz*

# ВІНШУЕМ МАЛАДЫХ

**Аддаём пад апеку Бога маладых, давяраючы, што стрымаюць у сваім жыцці сужэнскую прысягу. Просім нашых парафіянаў аб малітве за іх:**

1. Маллеева Руслана і Маллееву (Кулакову) Валянціну
2. Квяткевіча Валіко і Новік Кацярыну
3. Якімовіча Яўгена і Астахаву Таццяну
4. Хацкевіча Аляксандра і Валчок Марыну
5. Звяртоўскага Антона і Макарскую Рэнату
6. Гаўрыса Вячаслава і Астраўко Наталлю
7. Клімко Андрэя і Базылеву Вольгу
8. Матуліса Вадзіма і Зеньковіч Анастасію
9. Лазіцкаса Эрыка і Цывака Кацярыну
10. Баскеніса Сальваторэ і Густыр Ілону




*Любоў церпіць доўга, любоў міласэрная, любоў не зайздросціць, не праслаўляе сябе, не ганарыцца, не шукае свайго, не цешыцца з няпраўды. Любоў ніколі не знікае...*

# СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці і дарослыя:**



1. Ян Скурат, сын Дзмітрыя і Марыны
2. Маргарыта Лосік, дачка Андрэя і Аксаны
3. Кацярына Усс, дачка Андрэя і Святланы
4. Дзмітрый Нязгода, сын Лаўрэнта і Вольгі
5. Дзяніс Дамбоўскі, сын Яўгена і Алены
5. Валерыя Табала, дачка Паўла і Аліны
6. Іван Цвіль, сын Аляксандра і Ірыны

**СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА**

_______ . _______ 2006г. у _______ . _______ гадзін

у інтэнцыі _______________________________________________

_____________________________________________________________

| 21 жніўня Панядзелак | 22 жніўня Аўторак | 23 жніўня Серада | 24 жніўня Чацвер | 25 жніўня Пятніца | 26 жніўня Субота | 27 жніўня Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 - * | 9.00 - ✞<br>12.00 - ✞<br>17.00 - *<br>19.00 - ✞ | 9.00 - *<br>12.00 - ✞<br>17.00 - ✞<br>19.00 - * | 9.00 - ✞<br>12.00 - ✞<br>17.00 - *<br>19.00 - ✞ | 9.00 - ✞<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 - ✞ | 8.00 - *<br>10.00 - ✞<br>12.00 - ✞<br>17.00 - ✞<br>19.00 - * | 8.00 - *<br>9.00 - *<br>11.00 - *<br>13.00 - S<br>17.00 - * 👪<br>19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**

**21 жніўня** – Успамін св. Пія Х, папы
**22 жніўня** – Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы
**23 жніўня** – Успамін св. Ружы Лімскай, панны
**24 жніўня** – СВЯТА СВ. БАРТАЛАМЕЯ, АПОСТАЛА
**25 жніўня** – Успамін св. Людвіка
**26 жніўня** – Успамін св. Юзафа Каласанса, святара

**20 ЖНІЎНЯ - 20 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

## ВІНШУЕМ

18 жніўня ў нас парафіяльнае свята – Успамін святой Алены.

З гэтай нагоды шчыра віншуем усіх парафіян, а асаблівым чынам складаем словы віншавання і далучаем да малітвы верных усіх Ален нашай парафіі і Беларусі.

Няхай святая Алены будзе ўзорам пошуку Крыжа Езуса Хрыста на кожны дзень Вашага жыцця.

## ІМЯНІНЫ

**21 жніўня – св. Пій Х, папа** – Франц, Францішка, Леанід, Рыгор, Засім, Мірон, Іоанна
**22 жніўня – св. Агафон** – Цэзар, Марыя, Марыянна, Аляксей, Пётр, Юльян, Якаў, Зігфрыд, Антон, Дзмітрый, Іван, Лявон
**23 жніўня – св. Ружа** – Апалінары, Філіп, Лаўрэн, Агапіт, Лаўрэнцый, Раман
**24 жніўня – св. Барталамей, св. Эмілія** – Юрый, Максім, Тадэвуш, Тамаш, Тамара, Таццяна, Аляксандр, Васіль, Фёдар
**25 жніўня – св. Людвік IX, кароль** – Людвіка, Луіза, Юзэфа, Аляксандр, Аляксандра, Юзэф, Капітон, Памфіла
**26 жніўня** – Марыя, Зэферына, Іпаліт, Вальдэмар, Максім, Ціхан, Люцыя.
**27 жніўня** – Юзэф, Юзэфа, Моніка, Міхей, Яраслаў, Яраслава, Фядос, Аркадзій, Маркел
**28 жніўня** – Аўгусцін, Патрыцыя, Аляксандр, Аляксандра, Івона

Голас душы № 33 (216) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрднасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by, www.churchminsk.by. Падпісана да друку 17.08.2006. Фармат 60х84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №